*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 182 (534)
Пятніца, 9 кастрычніка 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




Я думаю так

## Саюз непарушны "республик славянских"?

### альбо Ці не занадта лёгка "вырашаюць" казённыя прапагандысты праблемы расійска-беларускіх стасункаў?

*Утварэнне Саюза Расіі і Беларусі з вялікай помпаю асвятлялася ў нашай дзяржаўнай прэсе. Але розным людзям па-рознаму запомніўся дзень "великого подписания". Калі афіцыйных асоб на ўрачыстай цырымоніі частавалі шампанскім, то мітынгаваўшую апазіцыю — гумавымі дубінкамі ды штрафамі... Прайшоў час, улегліся эмоцыі, але мне і па сённяшні дзень не даюць спакою некаторыя пытанні, з вялікай лёгкасцю "вырашаныя" нашымі казённымі ідэолагамі.*

Вось іх асноўныя тэзісы: маўляў, Расія ды Беларусь шмат стагоддзяў былі разам, у нас агульная гісторыя, спрадвечна брацкія стасункі, і таму мы, так бы мовіць, проста не маем права быць паасобку — дзвюм славянскім краінам наканавана уз'яднацца.

Тое, што наш край сапраўды доўга быў пад уладай магутнай суседняй дзяржавы, — чыстая праўда. Але ці з вялікай радасцю трапілі беларусы пад жалезную пяту Расійскай імперыі? Па-першае, у іх ніхто ўвогуле не пытаўся. Па-другое, сумняваюся, што ім вельмі падабаліся рэкруцкія наборы, уведзеныя на далучаных беларускіх землях ці мэтанакіраванае знішчэнне нацыянальнай культуры, мовы... Каб зразумець глыбіню гэтай трагедыі, дастаткова прачытаць хаця б некалькі добрых сумленных кніг па гісторыі (на жаль, пасля нядоўгай выдавецкай адлігі ім зноў стала амаль што немагчыма пабачыць свет). Расійскія цары кіраваліся зусім не брацкімі пачуццямі да беларусаў, а драпежнымі імперскімі інстынктамі: напачатку праглі заваяваць землі заходніх суседзяў, сеючы там смерць ды разбурэнне, а потым — закабаліць ды асіміляваць насельнікаў нашага краю, пазбавіўшы іх гістарычнай памяці.

Шмат у чым гэтую палітыку прадоўжылі і бальшавікі. Хіба ж невядома, што на абвяшчэнне БССР яны пайшлі толькі пад націскам абставін, баючыся стварэння незалежнай ад Масквы нацыянальнай дзяржавы пад сцягам БНР? А што казаць пра жахлівыя рэпрэсіі наступных гадоў, калі былі вынішчаны ці сасланы ў ГУЛАГ самыя працавітыя сяляне, лепшыя прадстаўнікі айчыннай інтэлігенцыі? А чаго было варта кашчунскае пажаданне Хрушчова, каб беларусы першымі ў СССР выракліся роднай мовы дзеля найхутчэйшага камуністычнага зліцця нацый!

Так, нельга зацыкліваща на ранейшых крыўдах (а тым болей пераносіць іх на ўвесь рускі народ, які за сотні гадоў сам панёс страшэнныя ахвяры ад лютых рэжымаў). Але і забываць горкія ўрокі гісторыі нярварта. І тым больш — адмаўляцца ад унікальнага шанцу пабудаваць незалежную беларускую дзяржаву (якой, безумоўна, не зашкодзяць добрыя, цесныя стасункі з усходняй суседкай).

Дарэчы, асобна хацелася б спыніцца на прапагандысцкім тэзісе пра "две славянские страны". Ну добра, на Беларусі сапраўды жывуць пераважна славяне. Але ж гэта не падстава лічыць, да прыкладу, літоўцаў ці яўрэяў грамадзянамі другога гатунку. А што ўжо казаць пра Расію? У яе складзе, як вядома, цэлы шэраг аўтаномій, сярод якіх і Дагестан, і Калмыкія, і Якуція, і тая ж Чэчня — рэспублікі, якія далёка не лічаць сябе славянскімі. Мяркую, што называць Расію славянскай краінай — значыць, абражаць дзесяткі народаў, якія насяляюць яе абсягі. Скажу нават больш рэзка: тут патыхае ўжо звычайным расізмам! Дарэчы, ці падумаў, напрыклад, вялікі энтузіяст "аб'яднання славянскіх народаў" Аман Тулееў, што ў такім разе яго ўласнае паходжанне можа выклікаць пэўныя пытанні ў якога-небудзь апантанага змагара за "веліч славянскай расы"?

Відавочна, што вядомыя веснавыя пагадненні, у якіх пераважае абстрактная дэкларыйнасць, далёка не расставілі кропкі над "і" ў няпростым пытанні расійска-беларускіх адносін. І да тэмы Саюза грамадскасць дзвюх краін будзе вяртацца яшчэ неаднойчы.

Пэўныя ж сілы з абодвух бакоў паспрабуюць і надалей скарыстоўваць сапраўды надзённую праблему больш плённага супрацоўніцтва між краінамі-суседкамі для несумленных, карыслівых палітычных гульняў. Так што пасля цяперашняга ахаладжэння стасункаў паміж Масквой і Мінскам зусім верагодны новы віток аб'яднаўчай рыторыкі. Па-першае, Беларусь застаецца для Расіі надзвычай важным стратэгічным плацдармам. Па-другое, сюды рвецца нахрапісты расійскі бізнес. Па-трэцяе: а раптам спадар Ельцын усё ж надумае яшчэ на адзін тэрмін сесці ў крэсла прэзідэнта — толькі ўжо аб'яднанай дзяржавы? Свае планы на гэты конт могуць быць і ў Мінска...

У любым выпадку важна не паддавацца прапагандысцкаму псіхозу, а цвяроза, на падставе гістарычнага вопыту, асэнсаваць магчымыя наступствы. Каб не давялося потым сёрбаць горкую кашу, завараную палітыканамі.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**



Крымінал

## Затрыманы былы кіраўнік Ашчадбанка

Былы кіраўнік Ашчаднага банка Уладзімір Хілько арыштаваны 6 кастрычніка ў Мінску. Аб гэтым паведаміў БелТА начальнік упраўлення Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Віктар Марозаў.

Ён растлумачыў, што гэта затрыманне звязана з расследаваннем спраў па так званых "нявыплатных" крэдытах. У свой час было выдана больш як сто крэдытаў на суму, што перавышае 15 мільёнаў долараў ЗША, палавіна з якіх да гэтага часу не вернута. У сувязі з гэтым праваахоўныя органы рэспублікі завялі больш як 70 крымінальных спраў, да крымінальнай адказнасці прыцягнута 40 асоб, некаторыя з іх ужо асуджаны. Дарэчы, дзякуючы намаганням следчых, значная частка сум вернута.

Віктар Марозаў адзначыў, што версія аб дачыненні да выдачы "нявыплатных" крэдытаў эксстаршыні праўлення і іншых адказных работнікаў банка распрацоўвалася з самага пачатку расследавання. Менавіта таму пракуратура прыняла рашэнне аб затрыманні Уладзіміра Хілько, які апошнім часам прадстаўляў у Беларусі адзін з расійскіх банкаў.

**БелТА.**

Здарэнні

## На Брэсцкім чыгуначным вакзале зноў "ЧП"

Другая за апошнія два тыдні аварыя здарылася 5 кастрычніка ў раёне чыгуначнай станцыі "Брэст-Цэнтральны". Калі ў канцы верасня з рэек сышлі чатыры вагоны грузавога поезда, то на гэты раз такі ж лёс напаткаў польскі электравоз пры выездзе з тупіка на першы пуць Граеўскага боку вакзала. На шчасце, і тут абышлося без ахвяр.

Як стала вядома карэспандэнту БелТА, брэсцкая транспартная міліцыя затрымала машыніста польскага лакаматыва. І хоць дакладныя прычыны здарэння пакуль назваць цяжка, ёсць версія, што машыніст з-за Буга "празяваў" чырвоны сігнал семафора. Памеры нанесенага ўрону і канчатковае заключэнне аб прычынах "ЧП" будуць вядомы пасля дасканалага расследавання.

**Іван КУКСА.**



Дзякуй

## Падтрымка свабоднага слова набліжае лепшае заўтра

Шаноўная рэдакцыя!

Хачу праз Вашу газету выказаць удзячнасць тым людзям з ліку сапраўдных беларускіх прадпрымальнікаў, што выдаткавалі пэўную суму грошай для арганізацыі падпіскі на "Народную волю" і штотыднёвіка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны "Наша слова" для школ Століншчыны. Практычна ўсе сельскія і пасялковыя школы маёй роднай Століншчыны атрымаюць магчымасць атрымліваць бясплатна на працягу IV квартала 1998 г. "Наша слова" і на працягу снежня — "Народную волю".

У сённяшніх умовах праблема атрымання насельніцтвам, асабліва ў вёсцы, усебаковай і аб'ектыўнай інфармацыі — адна з найважнейшых. У многім дзякуючы менавіта гэтаму Століншчына вызначылася ў свой час найменшай у Брэсцкай вобласці падтрымкай прэзідэнцкіх рэферэндумаў.

Карыстаючыся нагодай, хачу прапанаваць усім заможным людзям і надалей не стаяць у баку ад дабрачынных акцый. Кожны рубель, ахвяраваны на падтрымку роднага слова і свабоды інфармацыі, — гэта цвік у дамавіну любога недэмакратычнага рэжыму. Асабіста я ўпэўнены, што калі кожны на сваім месцы будзе рабіць нешта добрае, не баяцца праўды і садзейнічаць яе распаўсюджванню, то на беларускай зямлі хутчэй усталюецца дэмакратыя.

А "Народнай волі" хочацца пажадаць далейшых поспехаў, цікавых, праўдзівых матэрыялаў і пашырэння кола чытачоў.

**Павел ЗНАВЕЦ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета па Давыд-Гарадоцкай выбарчай акрузе №37, член ЦК БСДП (Народная Грамада).**

Стоп-кадр

Чалавек прыходзіць да Бога, і нязгаснае ачышчальнае святло запальваецца ў яго душы. Асабліва, калі шлях да высокай духоўнасці пачынаецца з маленства...

**На здымку:** *шасцігадовы Георгій Грынаўцаў, унук святара магілёўскай Барыса-Глебскай царквы.*

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

## Завершаны першы этап рэканструкцыі Мазырскага НПЗ

На Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе завершаны першы этап рэканструкцыі вытворчасці. Гэтай падзеі быў прысвечаны семінар "Вопыт правядзення рэканструкцыі НПЗ у сучасных умовах", які прайшоў у Мазыры 6 кастрычніка. У ім узялі ўдзел прадстаўнікі мясцовых і рэспубліканскіх органаў улады, а таксама нафтавых кампаній з Беларусі, Расіі, Германіі і Францыі, якія дапамагаюць НПЗ ажыццяўляць рэканструцыю.

Мэтай правядзення рэканструкцыі мазырскага завода з'яўляецца павышэнне глыбіні перапрацоўкі нафты і атрымання высокаактанавых бензінаў. Рэканструкцыя прадугледжвае чатыры этапы, кожны з якіх з'яўляецца асобным валютаакупным праектам. Вынікам першага этапа стаў выпуск высокаактанавых бензінаў А-92 і АІ-95 і экалагічна чыстага дызельнага паліва, а таксама падрыхтоўка да атрымання бензіну АІ-98. Заканчэнне ўсіх работ чакаецца ў 2000 годзе; пасля гэтага НПЗ зможа дасягнуць узроўню сярэдняй еўрапейскай глыбіні перапрацоўкі нафты — 84 працэнты (цяперашні паказчык складае 60 працэнтаў).

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

Громкое дело

## Восемь месяцев власти безуспешно пытаются сломать депутата Климова. В бессильной ярости сломали двери квартиры его семьи

*Как сообщала "Народная воля", правоохранительные органы, встревоженные намерением оппозиции, парламентариев и правозащитных организаций провести в день рождения содержащегося под арестом парламентария Андрея Климова широкую акцию протеста, разрешили узнику свидание с семьей. Уступка принесла желаемый итог — общественность несколько успокоилась, и пикет 17 сентября прошел без эксцессов.*

Однако последующие события показали, что власти не намерены оставлять семью парламентария в покое. Уже на следующий день жену депутата Татьяну Леонович вызвали к следователю. Как оказалось, не для очередного допроса. А для того, чтобы затем отвезти для обмера и телесъемки квартиры. Но... не довезли. Волнения предыдущих дней при подготовке политической акции, потрясение от вида любимого спровоцировали у молодой женщины сердечный приступ. Следователи вынуждены были оставить ее у матери, квартиру же Татьяны Эдуардовны опечатали.

Ко всему простудилась младшая дочь, и жене Андрея Климова выдали больничный лист по уходу за ребенком. Дело в общем-то житейское. Только вот наступившие осенние холода семья арестованного депутата встретила голой и босой. На дворе — заморозки, летают снежинки, а дети — в легкой сентябрьской одежде, без теплой обуви, оставшихся в "арестованной" квартире.

Прокуратура, куда пожаловалась изгнанная из своего жилища женщина, запретила даже подходить к двери в квартиру, пообещав за срыв печати самые суровые кары. Татьяна Эдуардовна обратилась в суд, но белорусская Фемида оперативно осуждает участников массовых политических акций. Реакции же системы правосудия на нарушение прав матери и детей до сих пор нет.

Помучив таким вот образом две недели семью депутата, следователь позвонил и произнес лишь одну фразу, что квартира, дескать, распечатана. Ни пояснений, ни уж тем более извинений. Вернувшись домой, Татьяна Леонович обнаружила, что дверь взломана, в комнатах беспорядок, бумаги перерыты. Часть документов и имущества, по ее словам, исчезла. Среди пропавшего — и заключение специальной комиссии Верховного Совета по правовой оценке нарушений президентом Александром Лукашенко Конституции и законов Республики Беларусь.

О покушении на свою частную собственность хозяйка квартиры заявила в милицию. О происшествии были оповещены все столичные наряды охраны правопорядка. Версию Татьяны Эдуардовны о взломе квартиры следователями Комитета по борьбе с организованной преступностью прибывшие из Октябрьского РУВД милиционеры отвергли, поскольку в соответствии с правовыми нормами вход в жилище без ведома собственника допускается лишь при совершении там преступления.

Начальник ЖЭСа пояснил, что, согласно требованию Комитета по борьбе с организованной преступностью, для взлома двери квартиры жены депутата Климова он направил мастера и слесаря. Однако лица, побывавшие в квартире, акта взлома не составили, протокола обыска, изъятия документов и имущества ЖЭСу не выдали, объяснив это секретностью своей миссии. О сверхсекретности проведенной операции свидетельствует и тот факт, что для участия в операции не допустили даже участкового милиционера.

Нарушениям Конституции и законов парламентарий Климов и его семья уже не удивляются. Но тем не менее напоминают следователям, что возмещать причиненный ущерб им придется из собственного кармана.

**Валерий ЩУКИН,**
**депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

Внимание: идет приватизация!

## Зайдите в частный магазин

### Днями исполнилось пять лет со дня проведения первого аукциона по продаже коммунальной собственности в рамках проекта Международной финансовой корпорации (МФК) "Малая приватизация в Беларуси", финансируемого Агентством США по международному развитию

Сегодня проект охватывает все областные и 8 районных городов. Через аукционы и выкупы приватизировано 667 объектов на общую сумму около 400 миллиардов рублей.

В сентябре этого года в рамках проекта было подготовлено 18 аукционов. На них был продан 41 объект. Сентябрьские аукционы принесли местным бюджетам более 80 миллиардов рублей. Это больше, чем выручка от аукционов за все восемь предыдущих месяцев года. Руководитель проекта МФК объясняет высокие сентябрьские результаты не только возобновлением деловой активности после летних отпусков, но и тем, что в этом месяце были удачно применены новшества, которые вызвали дополнительный интерес к торгам. Например, 5 объектов в Минске и Витебске были проданы на голландских аукционах по методу снижения стартовой цены. Другим новшеством, опробованным на практике в столице, стала успешная продажа предприятия-должника, выставленного на торги с символической начальной ценой — одна минимальная зарплата.

Одним из главных итогов малой приватизации стали значительные изменения в общественном сознании. Частные владельцы магазинов смогли обеспечить невиданное до сих пор разнообразие товаров, круглосуточный режим работы, дополнительные услуги, о которых пять лет назад можно было только мечтать. Во многом благодаря этому у малой приватизации появилось множество сторонников. За реформы голосуют и те, кто в результате их проведения получил работу. Малая приватизация привела к созданию более 1200 новых рабочих мест. В одной лишь небольшой Орше на каждом из 48 предприятий, приватизированных при содействии МФК, создано в среднем 4 новых рабочих места.

По мнению руководителя проекта, сегодня малая приватизация не нуждается в каких-либо качественно новых способах ускорения. Для ее эффективного продолжения необходима в первую очередь политическая воля и готовность местных властей выставлять на продажу небольшие предприятия торговли, общественного питания и бытового обслуживания. Механизмы для их реформирования выработаны и успешно действуют.

### 12 октября во Дворце искусств

В Минске состоялся очередной аукцион. Сменили форму собственности 4 объекта коммунального хозяйства, а бюджет города пополнился 21.385.200.000 рублей.

Очередной аукцион назначен на 12 октября 1998 г. Вниманию покупателей предлагаются: три здания по ул.Замковой в историческом центре города (начальные цены от 100 до 330 млн. руб.) и незавершенное строительство шестиквартирного дома в поселке Петровичи Смолевичского района (начальная цена 2200 млн. руб.). Торги состоятся в 12.00 по адресу: **ул.Козлова, 3, Дворец искусств, конференц-зал.**

### Борисовский рекорд

В Борисове состоялся 7-й аукцион по продаже объектов коммунальной собственности. Новых хозяев нашли 5 объектов коммунальной собственности. Среди них — продовольственный магазин, тарная база и т.д.

7-й аукцион стал рекордным для Борисова, пополнив городской бюджет выручкой в размере 7.945.100.000 рублей.

В целом торги показали, что предприниматели, несмотря на экономические сложности, готовы участвовать в процессе реформирования отношений собственности. Ярким подтверждением этому является успех борисовского аукциона. Инициатива частных собственников позволит оживить проданные объекты и вовлечь в хозяйственный оборот неиспользуемое имущество города.

Дополнительную информацию можно получить в Международной финансовой корпорации по тел. **(017) 222-44-69.**

**Отдел по связям с общественностью проекта Международной финансовой корпорации "Малая приватизация в Беларуси".**

Рэха

## Народ-манкурт ніколі не будзе багатым

Дарэмная справа спрачацца, якая мова лепшая. Зразумела, што для кожнага нармальнага чалавека самай лепшай і найпрыгажэйшай з'яўляецца свая, родная. Гэта значыць, беларусу — беларуская, паляку — польская, рускаму — руская, кітайцу — кітайская і г.д. Таму мне вельмі смешна чытаць абрусеўшага беларуса, які пачынае нешта даказваць наконт "убоства і прымітыўнасці" мовы, якой ён не ведае і якою не карыстаецца. Няма моваў гарадскіх ці вясковых, інтэлігентных ці неінтэлігентных, добрых ці дрэнных.

Вельмі абразліва спадар Васілеўскі называе нармальных беларусаў "аматарамі беларускай мовы". Мы не "аматары", а сапраўдныя беларусы, і не толькі па пашпарце, а, галоўнае, па духу. Я адчуваю, што беларуская мова больш адпавядае маёй душы і што на іншай я не магу так выразна выказваць свае пачуцці, як на беларускай: не гучыць!!! І яшчэ І.Васілеўскі піша, што нас будуць паважаць, калі мы будзем багатымі. Але народ, які не гаворыць на сваёй мове, народ-манкурт ніколі не будзе багатым. І гэта пацвярджаецца як гісторыяй, так і сучаснасцю. Народ, які цураецца сваёй мовы, не адчувае сябе гаспадаром на сваёй зямлі, а адсюль і вынікі яго працы. Толькі свабодныя людзі, з развітым пачуццём адказнасці за сваю зямлю і будучыню, могуць стварыць квітнеючую эканоміку.

На практыцы так і атрымліваецца. Вазьміце любую развітую краіну свету ці блізкія да нас краіны Прыбалтыкі. Для Літвы, Латвіі, Эстоніі заўсёды незалежнасць і родная мова былі на першым месцы. На шляху да незалежнасці яны перажылі і голад, і холад, і танкі на вуліцах. А цяпер эканамічныя рэформы ідуць у іх паспяхова.

А мы праводзім рэферэндумы супраць нацыянальнай сімволікі, мовы, а ў эканоміцы — крызіс, і канца яму не відаць...

Пачынаць трэба з мовы, дадзенай Богам. З дзіцячых садкоў, школ, універсітэтаў. Без беларускай мовы не будзе Беларусі і не будзе стабільнай эканомікі. Закончыць жа я хачу аптымістычным вершам Генадзя Бураўкіна:

*Перажыла наша родная мова*
*І Бенкендорфа, і Мураўёва,*
*Панскія здзекі,*
*Чэкісцкія чысткі,*
*Рогат імперскі,*
*Вырак фашысцкі...*
*Тых,*
*Што з мякінаю ў галаве,*
*Перажыве!*

**Тамара МАХАНЁК, пенсіянерка.**
*Мінск.*

## Апублікаваны ўдакладнёныя паказчыкі бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1998 год

7 кастрычніка апублікаваны ўказ прэзідэнта А.Лукашэнкі з удакладнёнымі паказчыкамі бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1998 год. Як ужо паведамляў БелаПАН, дадзены ўказ быў прыняты ў сувязі з адхіленнямі асноўных макраэканамічных паказчыкаў даходаў і расходаў рэспубліканскага бюджэту, а таксама бюджэтаў абласцей і Мінска ад памераў, якія ўлічваліся пры распрацоўцы Закона аб бюджэце на гэты год.

Згодна з прэзідэнцкім указам, удакладнёныя паказчыкі рэспубліканскага бюджэту складаюць: па расходах — 138 821 118 мільёнаў рублёў, па даходах — 112 150 618 мільёнаў рублёў. Пры гэтым памер прыросту дзяржаўнага ўнутранага доўгу рэспублікі не павінен перавышаць 5 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту. Удакладнёныя таксама паказчыкі структуры расходаў рэспубліканскага бюджэту. Найбольш буйныя сумы расходаў прадугледжаны на фінансаванне наступных сфер народнай гаспадаркі:

— папярэджанне і ліквідацыя наступстваў надзвычайных сітуацый і стыхійных бедстваў — 12 691 305,1 млн. рублёў;

— праваахоўная дзейнасць і забеспячэнне бяспекі — 10 094 391,4 млн. рублёў;

— адукацыя — 8 459 409,0 млн. рублёў;

— арганізацыя дзейнасці, звязанай з ваеннымі патрэбамі, — 6 586 929,0 млн. рублёў;

— сельская гаспадарка — 4 514 763,0 млн. рублёў;

— дзяржаўнае кіраванне, мясцовае кіраванне і самакіраванне — 3 919 084,7 млн. рублёў;

— навука — 2 987 758,8 млн. рублёў;

— міжнародная дзейнасць — 2 781 139,8 млн. рублёў;

— транспарт, дарожная гаспадарка і сувязь — 2 478 295,0 млн. рублёў;

— ахова навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў — 2 468 185,6 млн. рублёў;

— прамысловасць, энергетыка і будаўнічы комплекс — 2 285 900,0 млн. рублёў.

**БелаПАН.**

Актуально!

## Если вам нужна новая квартира...

### На Гродненщине началась реализация жилищно-строительной программы "Рациональный дом". В середине сентября состоялась торжественная церемония закладки первого дома в гродненском микрорайоне Вишневец

*Из истории вопроса.* В советские времена у людей было несколько способов решения жилищной проблемы. Первый — получить бесплатную квартиру от государства. Но ждать этого порой приходилось десятилетиями. Второй способ — вступить в жилищно-строительный кооператив и за свой счет приобрести квартиру. В этом случае государство предоставляло долгосрочные кредиты членам ЖСК.

Сейчас все по-другому. Очень немногие люди имеют возможность получить бесплатную квартиру. Членам ЖСК государство как будто предоставляет льготные кредиты, однако, чтобы получить их, многим нужно выстоять в очереди от 10 до 20 лет. Таким образом, люди, которые не в состоянии выплатить всю стоимость квартиры сразу, но могли бы сделать это в рассрочку, оказались исключенными на какое-то время из жилищного строительства. Пока не появилась государственная жилищно-строительная программа "Рациональный дом".

*Сущность программы.* В основе этой программы лежит хорошо известная в Западной, а теперь и Восточной Европе система стройсбережений, тщательно адаптированная к белорусским условиям. Смысл этой системы в том, чтобы дать людям, строящим себе жилье, возможность вселиться в новую квартиру задолго до выплаты ее стоимости.

Участие в программе "Рациональный дом" предусматривает два этапа — накопительный и кредитный. На первом этапе нужно выполнить два обязательных условия. Первое — необходимо выкупить в определенном временном режиме 50% стоимости будущей квартиры. Эти деньги немедленно вкладываются в строительство жилья и таким образом защищаются от инфляции. Гарантируется, что при вселении в квартиру за выкупленные метры хозяину не придется доплачивать и что при желании он сможет вернуть свой вклад с полной компенсацией.

Второе условие — набрать по ходу накопления обязательный накопительный коэффициент. Для этого по мере накопления и выплаты первой половины стоимости будущей квартиры на его вклад начисляется специальный депозитный процент. Он имеет условный, расчетный характер. Величину его человек выбирает сам. От депозитного процента зависит, сколько времени должно пройти, прежде чем участник программы получит право вселиться в новую квартиру и в течение какого срока он должен будет выплачивать остальные 50% ее стоимости на втором этапе.

После того как эти условия выполнены, начинается кредитный этап. Не позже, чем через шесть месяцев после окончания накопительного этапа участник программы вселяется в новую квартиру и потом равномерными порциями выплачивает оставшиеся 50%.

В программе "Рациональный дом" существует и такой вариант расчета за новую квартиру, как частичная оплата ее старой площади. Например, имея квартиру в 48 квадратных метров, человек хочет приобрести новую квартиру площадью 80 квадратных метров третьей ценовой категории. Специалисты "Рационального дома" оценивают эту квартиру и устанавливают, что она по своим потребительским качествам соответствует 40 квадратным метрам той же третьей категории. Участник программы заключает на накопительном этапе договор обмена и продолжает жить в старой квартире вплоть до вселения в новую. Но при этом он будет платить уже не за 80, а за 40 квадратных метров.

*Жилье нового поколения.* В настоящее время ассоциация "Рациональный дом" ведет строительство в Минске четырех многоквартирных жилых домов нового поколения с общей площадью свыше 10 тысяч квадратных метров. Завершение их строительства планируется во втором-третьем кварталах 1999 года.

За год, прошедший с начала реализации программы "Рациональный дом", ее участниками стали более 1400 граждан республики, которые инвестировали в строительство жилья в рамках программы свыше 145 миллиардов рублей.

Гродно — первый областной центр республики, где начата практическая реализация этой программы. "Рациональный дом" ведет проектирование в Гродно первого жилого многоквартирного дома на 188 квартир.

Дома, которые будут возводиться в Гродно, так же как и в Минске, считаются жильем нового поколения — при их строительстве применяются энерго- и ресурсосберегающие технологии, лучшие отечественные и импортные материалы. Планировка квартир будет свободной, их владельцы смогут спокойно менять расположение внутриквартирных стен, варьируя даже количество комнат.

По оценкам специалистов, потенциальными участниками программы "Рациональный дом" являются около 75 тысяч белорусских семей.

**Анна СОУСЬ.**

